*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета ◆ № 1(57) ◆ 3 студзеня 1992 г. ◆ Кошт 20 кап. (Па падпісцы — 10 кап.)

## Поступ тыдня

**НАЙБОЛЬШ СКЛАДАНЫМ ПЫТАННЕМ, ЯКОЕ АБМЯРКОЎВАЛАСЯ НА НАРАДЗЕ НЕЗАЛЕЖНЫХ ДЗЯРЖАЎ У МЕНСКУ, ЯК СКАЗАЎ Б. М. ЕЛЬЦЫН, БЫЛО ВАЕННАЕ.** Тым не менш кіраўнікі згадзіліся, што стратэгічныя ўзброеныя сілы будуць знаходзіцца пад адзіным камандаваннем. А яго ў сваю чаргу намечана падпарадкаваць Савету кіраўнікоў незалежных дзяржаў.

*ПАЛАЖЭННІ аб дзяржаўным гербе і сцягу Рэспублікі Беларусь зацверджаны беларускім парламентам і апублікаваны ў «Народнай газеце» за 27 снежня мінулага года.*

**АФІЦЫЙНЫМІ МОВАМІ ДВУХ САВЕТАЎ, СТВОРАНЫХ 30 СНЕЖНЯ МІНУЛАГА ГОДА Ў МЕНСКУ, БУДУЦЬ ДЗЯРЖАЎНЫЯ МОВЫ ЧЛЕНАЎ САДРУЖНАСЦІ, А РАБОЧАЙ МОВАЙ — РУСКАЯ.** Пасяджэнні намечана праводзіць, як правіла, у Менску.

*НА КАНЕЦ студзеня намечана новая сустрэча членаў Садружнасці незалежных дзяржаў. На ёй будуць абмеркаваны першыя вынікі лібералізацыі цэн.*

**ІДЗЕ АДКРЫТАЕ І СКРЫТАЕ НАСТУПЛЕННЕ НА ПРАВЫ ПРАЦОЎНЫХ, ІХ УЗРОВЕНЬ ЖЫЦЦЯ, — ТАК ЛІЧЫЦЬ ШЭРАГ ЛІДЭРАЎ ПРАФСАЮЗНАГА РУХУ РЭСПУБЛІКІ.** І таму мяркуюць, што супрацьстаяць гэтаму можна толькі з дапамогай забастоўкі. Аб няўвазе да патрэб народа сведчаць у многім праекты Закона аб прафесіянальных саюзах і Кодэкса законаў аб працы.

*У Баранавічах пачалі прадаваць хлеб па харчовых картках.*

**АПОШНІМ** часам у сувязі з лібералізацыяй цэн шмат выступаюць перад насельніцтвам кіраўнікі рэспублікі. **І УСЁ Ж МНОГІМ НЕЗРАЗУМЕЛА, КУДЫ ІДУЦЬ ЯК ЗРОБЛЕНЫЯ Ў НАС ТАВАРЫ І ПРАДУКТЫ (А ІХ ВЫТВОРЧАСЦЬ ЗНІЗІЛАСЯ НЕ ТАК УЖО І НАМНОГА), ТАК І СРОДКІ, ШТО АТРЫМЛІВАЕ ДЗЯРЖАВА АД ПАВЫШЭННЯ ЦЭН.**

***ЯК АДЗНАЧАНА** ў пратаколе нарады незалежных дзяржаў, **ГУМАНІТАРНУЮ ДАПАМОГУ ПА ЛІКВІДАЦЫІ ВЫНІКАЎ АВАРЫІ НА ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ АЭС БУДУЦЬ АКАЗВАЦЬ УСЕ ДЗЯРЖАВЫ САДРУЖНАСЦІ.***

## *Няхай споўніцца — што жадаецца! Што задумана — ўсё прыдбаецца!*





З многіх творчых калектываў, што аб'ядноўвае студэнцкая філармонія, створаная пры Менскім інстытуце культуры, фальклорны ансамбль «Валачобнікі» — адзін з найбольш вядомых. У аснове яго папулярнасці — высокая вакальная і сцэнічная культура, яркі матэрыял, што ўзяты з народных крыніц, і, вядома ж, шчырасць, з якой выступаюць маладыя выканаўцы.

«Валачобнікі» — дыпламант VI міжнароднага конкурсу фальклорных ансамбляў, які прайшоў у польскім горадзе Катавіцы міжнароднага музычнага фестывалю «Алтын-Алма», што праходзіў у Алма-Аце, іншых аўтарытэтных аглядаў самадзейнай творчасці. Цяпер калектыў рыхтуецца да новай паездкі. На гэты раз — у Францыю. Там ён пакажа вялікую праграму, у якую ўвойдуць беларускія народныя песні, танцы, інструментальная музыка і абрады.

НА ЗДЫМКУ: гучаць беларускія песні. Злева — салістка ансамбля студэнтка трэцяга курса Ірына Шкарба.

Фота Валерыя АЛЯШКЕВІЧА. (БЕЛТА).

## Слова да чытача

Шаноўныя спадары, дарагія сябры беларускага Слова! Супрацоўнікі і рэдакцыйная калегія газеты віншуе Вас з Новым годам, з Калядамі! Выказваем сардэчную ўдзячнасць старым падпісчыкам «Нашага слова», якія захавалі яму вернасць. Вы ўвесь час падтрымлівалі маладую газету і матэрыяльна, і сваімі парадамі, допісамі, паведамленнямі з месц, а таксама і канструктыўнай крытыкай. Вялікую карысць для ўдакладнення рэдакцыйнай палітыкі прынеслі Вашы адказы на анкету, падрабязны аналіз якой плануем надрукаваць у бліжэйшых нумарах «Н. С.»

Вітаем таксама новых падпісчыкаў газеты, якія выказалі такім чынам сваю салідарнасць з рухам па Адраджэнні беларускай нацыянальнай культуры, гістарычнай памяці народа і ягонага ўласнага духоўнага аблічча. Дарэчы, агульная колькасць падпісчыкаў на Наша слова» ў 1992 годзе павялічылася ў параўнанні з папярэднім амаль у два разы. 154 з іх знайшлі магчымасць аформіць падпіску, жывучы за межамі Беларусі, хоць з гэтым былі складанасці нават у суседніх з Менскам раёнах. І цяпер яшчэ да нас працягваюць звяртацца людзі — па тэлефоне і пісьмова — з запытаннем, як падпісацца на «Н. С.»? Спадзяёмся, дарагія сябры, і на далейшую актыўную падтрымку газеты, на распаўсюджванне яе з Вашай дапамогаю ў шырокім асяродку суайчыннікаў. Можаце не сумнявацца ў тым, што «Наша слова» будзе і надалей — Вашым словам.

Ранейшы і наш галоўны накірунак — вучоба, культура, духоўнасць. «Наша слова» — выданне рэспубліканскага Таварыства беларускай мовы, на чыім сцягу запісаны запаветы вялікіх сыноў Айчыны Скарыны і Багушэвіча, будзе змагацца, як было заяўлена некалі яшчэ ў першым выпуску газеты яе заснавальнікам,— за рэальны ўздым аўтарытэту і прэстыжу беларускай мовы, за тое, каб яна паўнапраўна, свабодна і смела гучала на зямлі яе вялікага стваральніка — беларускага народа. За тое, нарэшце, каб усе мы, жыхары Беларусі, усвядомілі: выжыць зможам, толькі адчуўшы сябе еднасцю — культурнай і эканамічнай, народам. Жыве Беларусь!

# адраджаецца нацыя

## канферэнцыя настаўнікаў)

скіх нацыянальных вопратках заспявалі «Зорку Венеру», некаторыя з прысутных праслязіліся.

«Як хораша, што і ў Літве дзеці беларусаў ведаюць і любяць паэзію Багдановіча! Як чыста яны гавораць па-беларуску!» — сядзела і радавалася я. Вырашыла пазнаёміцца з дзецьмі бліжэй.

«Мы прыехалі з Баранавіч, з музычнай школы»,— паведаміла мне кіраўнік ансамбля Галіна Блыхаўка. Гэта былі першыя «гастролі» дзяцей. Нягледзячы на хваляванне, юныя артысты зрабілі вялікае ўражанне на прысутных сваім таленавітым выступленнем. Асабліва запомніліся Какуліна Наташа — цымбалістка, Казлоўскі Вадзім — скрыпач, Вайтовіч Лена, Рагуля Сяржа, Жыгала Лена, Скапец Оля — вядучыя імпрэзы. Я падзякавала за выступленне і, пажадаўшы творчых поспехаў, пацікавілася, як сюды даехалі, як збіраюцца вяртацца. Аказалася, што дзеці таксама прыехалі на цягніку, і цяпер яны не маюць зваротных білетаў.

Валянцін Стэх ад імя клуба «Сябрына» падзякаваў баранавіцкі ансамбль за цікавую імпрэзу і ўручыў сувеніры. А госці з Баранавіч раздалі прысутным сувеніры-паштоўкі з выявай Вострай Брамы, партрэтам М. Багдановіча і вершам «Пагоня», выкананыя па заказу Дабрачыннага фонду «Талака» горада Баранавічы і гарадскога аддзялення ТБМ. Затым дзяцей запрасілі ў буфет, дзе іх чакаў пачастунак. Фінансуе такія мерапрыемствы літоўскі дэпартамент па справах нацыянальнасцей.

Набліжаўся час дакладаў. Зала пачала пусцець. Нарэшце засталося чалавек дваццаць. На жаль, сярод тых, хто пайшоў, былі і будучыя настаўнікі з Брэста.

Канферэнцыю адкрыла спадарыня Ала Кажэра, якая расказала пра незалежны камітэт беларускіх настаўнікаў «Думка», запрасіла прысутных да супрацоўніцтва. У сваім выступленні спадарыня Ала адзначыла, што настае час стварэння фонду беларускіх настаўнікаў, які б дапамагаў набываць патрэбныя падручнікі, займаўся фінансаваннем вандровак і экскурсій вучняў.

Ала Кажэра паведаміла кантактныя тэлефоны і адрасы, а таксама дала практычныя парады: ствараць у Вільні курсы беларускай мовы для ўсіх жадаючых, накшталт тых, што паспяхова дзейнічаюць у Менску, арганізоўваць падпіску на беларускамоўныя выданні, рабіць для вучняў вандроўкі па гістарычных мясцінах. А галоўнае — дапамагаць дзецям дакладна вызначыць сваю грамадзянскую пазіцыю і трымацца яе.

Марыя Мацюкевіч пачала выступленне са свайго верша, прысвечанага беларускаму Адраджэнню. Пытаннем прагучалі апошнія радкі твора:

Няўжо і зараз не адчуем,
Які на нашых душах грэх?

А затым спадарыня Марыя Мацюкевіч сказала: «Я заўсёды на сваіх уроках расказваю пра нашу Салігоршчыну. Мы павінны ганарыцца, што нашымі землякамі з'яўляюцца У. Сыракомля, А. Кулакоўскі, А. Чарнышэвіч. Вывучаючы паэму Я. Коласа «Новая зямля», я звяртаю ўвагу вучняў на той раздзел паэмы, дзе апавядаецца, як бацька і дзядзька спрабуюць купіць зямлю ў нашага земляка, селяніна з вёскі Смольгава. Як хораша апісаны наш край! Цікава вучням даведацца і пра героя паэмы, смольгаўскага селяніна, які, праўда, з іншым прозвішчам, быў цалкам рэальным чалавекам, і ягоныя нашчадкі і цяпер жывуць у Смольгаве...»

Працягваючы выступленне, М. Мацюкевіч расказала пра Лявона Случанціна, паэта цяжкога лёсу, чыя паэма «Рагнеда» была нядаўна надрукавана ў часопісе «Спадчына», а ў 1944 годзе асобнай кніжкай выйшла ў Вільні.

Святлана Багданкевіч, выкладчыца музыкі ў Менскім педвучылішчы № 1, у сваім выступленні адзначыла, што беларускую мову патрэбна вывучаць з самага маленства, і


Вільня. Касцёл Святой Ганны (XVI ст.)
Ілюстрацыя Лявона ВОЛЬСКАГА

на сённяшні дзень пярэдні край беларусізацыі — дзіцячыя садкі, а значыць, і навучальныя ўстановы, якія рыхтуюць для іх спецыялістаў.

Сама Святлана Багданкевіч перайшла на беларускую мову выкладання ў мінулым годзе. Тады яна была адзінокай у сваім пачынанні. Цяпер у педвучылішчы ўжо сем чалавек.

Увогуле, пераход на беларускую мову навучання ў вучылішчы запланаваны на 1992 год. Спадарыня Святлана назвала гэты пераход «аксамітным» па аналогіі з «аксамітнай рэвалюцыяй». Ёсць і канкрэтныя зрухі. Уводзіцца новы прадмет — гісторыя Беларусі, які будзе выкладацца два разы на тыдзень. Энтузіястамі кафедры педагогікі складаецца «Анталогія педагагічнай думкі Беларусі», з'явіўся фальклорны ансамбль, ставяцца спектаклі на беларускай мове. На ратапрынце выдадзены слоўнік спецыяльных тэрмінаў.

Рыхтуючыся да канферэнцыі, Святлана Багданкевіч правяла анкетаванне сярод настаўнікаў і вучняў. Настаўнікам было зададзена пытанне: «З якімі цяжкасцямі вы сутыкаецеся, пераходзячы на беларускую мову выкладання?» Выявіліся дзве галоўныя прычыны: адсутнасць падручнікаў па спецыяльнасцях і недастатковае веданне мовы.

Сямідзесяці чатыром студэнтам былі зададзены такія пытанні:

1. Ці зможаце адразу пасля заканчэння вучылішча працаваць у беларускамоўным садку? (Зможам — 39 %, не — 51 %);

2. Ці будзеце вы паўнацэннымі спецыялістамі без ведання беларускай мовы? (Будзем — 54 %, не — 46 %).

3. Вашы адносіны да беларусізацыі? Ці ўхваляеце вы яе? (Толькі дзесяць працэнтаў будуць працаваць у нашых дзіцячых садках).

Міхась Шавыркін у сваім выступленні расказаў пра сённяшняе палітычнае становішча на Беларусі, пра часопіс «Беларуская мова і літаратура ў школе», які ў наступным годзе будзе выходзіць пад назвай «Роднае слова».

М. Шавыркін заўважыў, што вельмі хутка спатрэбяцца людзі, якія павінны валодаць літоўскай і беларускай мовамі, і ў гэтым плане шмат можа зрабіць кафедра славістыкі Віленскага універсітэта. Трэба і самім настаўнікам наладжваць між сабой дзелавыя кантакты.

Цікавым было выступленне спадара А. С. Анішчыка, актыўнага сябра клуба «Спадчына», колішняга выпускніка Віленскай гімназіі. Ён сказаў, што, адкрываючы беларускія садкі і школы, трэба даваць бацькам у гэтай справе пераканаўчую аргументацыю. Спадар Анішчык прывёў цікавыя факты з замежнага друку: «Дзіця адрознівае родную мову ад іншай на 2—3 тыдзень жыцця. Найбольш поўна рэалізуюць свае прыродныя магчымасці людзі, якія вучыліся на роднай мове. Напрыклад, у Польшчы на ўсіх школьных алімпіядах прызавыя месцы займаюць навучэнцы беларускіх ліцэяў Беласточчыны.

(Заканчэнне на 4-й стар.).

# ДА ГІСТАРЫЧНАЙ СВЯДОМАСЦІ

У такіх умовах выйграе больш нахабны, бо ён больш прыстасаваны для выжывання ў нецывілізаваных умовах, арыентуецца толькі на дзікую сілу, на скацінныя метады лютых драпежнікаў. Але ж гэта вядзе да аднаго — да знікнення чалавечага ў людзях, а ў выніку да іх самазнішчэння. А пакуль што са старонак газет і часопісаў, з экранаў тэлевізараў усё настойлівей раздаюцца заклікі быць міласэрнымі да... рабаўнікоў, забойцаў, гвалтаўнікоў і г. д. Мала таго, не так даўно нават прэзідэнт М. С. Гарбачоў выдаў указ аб адмене смяротнага прыгавору судоў 21 забойцу пры самых ацягчальных абставінах! Але супраць каго гэта падтрымка ў канчатковым выніку скіраваная? Вядома, супраць Гонару, Сумлення і правоў добрых людзей. На жаль, ён, відаць, не разумее і гэтага, бо смяротныя прыгаворы зараз выносяцца ў нас толькі ў выключных выпадках за самыя звышзвярэлыя ўчынкі.

Чым гэта ўсё можа скончыцца, ужо сказана.

Дзе ж выйсце?

Супольны Розум чалавецтва мяркуе: выйсце заключана ў самым глыбокім і ўзважаным вывучэнні мінулага з жыцця народаў, яго суадносін з сучасным і, яшчэ больш, з будучым — каб знайсці найбольш правільныя кірункі для жыцця ўсіх і кожнага чалавека. Абгрунтаванне: жыццё чалавечага грамадства праходзіць у поўным сэнсе ва ўсё ўскладняючыхся паўторных цыклах. У мінулым шмат аналагаў — там вопыт, памылкі і мудрыя рашэнні найскладанейшых пытанняў жыцця.

Пацверджанняў адзначанаму шмат і ў гісторыі Беларусі. На жаль, зусім нядаўна яна альбо замоўчвалася, альбо падмянялася бальшавізмам, прапагандысты якога, падмацаваныя гіганцкім рэпрэсіўным апаратам, убівалі ў галовы некалькіх пакаленняў насельніцтва ідэі, якія вялі да самагубства.

Каб падобнай «спадчыны» пазбавіцца, трэба дзейнічаць рашуча, не чакаючы, пакуль наш інертны Вярхоўны Савет прыме праграму (ды яшчэ з механізмам яе ўводу ў дзеянне!) нацыянальнага ўратавання. Мы ў Беларускім тэхналагічным інстытуце таму стварылі Універсітэт беларускай мовы, гісторыі і культуры. «Тэхнары» прывыклі менш мітынгаваць і больш дзейнічаць канкрэтна і прагрaмна. Мэта: істотна пашырыць веды выкладчыкаў па нацыянальнай культуры, закласці трывалыя ўмовы для далейшых самастойных творчых пошукаў і, нарэшце, — падрыхтаваць для выкладання дысцыплін па спецыяльнасці на беларускай мове. Праграмай прадугледжаны лекцыі па беларускай мове і літаратуры, па гісторыі і культуры Беларусі. Па беларускай мове праводзяцца лекцыі (60 гадзін), практычныя заняткі (204 гадзіны) і індывідуальныя (120 гадзін) заняткі па гісторыі і культуры (лекцыі — 132 гадзіны, семінары — 42 гадзіны).

Заканчваецца навучанне залікам з перакладам канкрэтнага спецыяльнага навучальнага дапаможніка на беларускую мову для выкарыстання ў навучальным працэсе са студэнтамі. У якасці пацверджання заліку прадугледжана выдача адпаведнага пасведчання.

На лекцыях не проста механічна выкладаюцца гістарычныя звесткі. У кожнай з іх праводзіцца глыбокі аналіз фактаў і падзей, аналізуюцца вынікі, магчымыя варыянты розных зыходаў і ўплываў на сучаснасць. Акрамя таго падкрэсліваецца: з мэтай кансалідацыі грамадства і больш эфектыўнага стваральнага выкарыстання магутнай нацыянальнай энергіі зараз адраджэнне беларускай мовы з'яўляецца адной з першачарговых задач рэспублікі. Канешне, гісторыя ведае прыклады, калі асобныя народы, амаль не карыстаючыся роднай мовай, тым не менш не зніклі як прадстаўнікі сваёй нацыі па асаблівасцях характару, фізічнага складу і некаторых генных характарыстыках. Але як еднасць, асабліва дзяржаўную, любы народ зберагае сябе толькі тады, калі не губляе сваёй мовы, рэлігійнай веры, праверaных выпрабаваннем часу звычаяў і самабытнасці.

Аляксей САЛАМОНАЎ,
доктар тэхнічных навук.

## Калі адраджаецца нацыя

*(Заканчэнне. Пачатак на с. 2—3).*

Міжнароднай статыстыкай устаноўлена, што беларусы — самы здольны і працавіты народ у свеце. І даследаванне сярод эмігрантаў пацвердзіла, што найбольшы працэнт выдатных людзей, навукоўцаў, дзеячаў мастацтва — даюць беларусы.

Акрамя таго, па прыгажосці і мілагучнасці беларуская мова займае другое месца ў свеце — пасля італьянскай. А руская мова толькі на дзесятым месцы».

Зацікавіў удзельнікаў канферэнцыі і мой расказ пра газету «Наша слова». Запэўнілі, што абавязкова на яе падпішуцца.

Мы пазнаёміліся з віленскімі настаўнікамі. З 51-й школы, што ў Новай Вільні, на канферэнцыю прыехалі спадарыні Валянціна Ажыгар, Наталля Лапыткова, Ніна Пашкевіч. Ад спадарыні Ніны я даведалася, што яна ў свой час закончыла факультэт беларускай мовы і літаратуры ў Гродне, і вось ужо шаснаццаць год працуе ў Вільні. У мінулым годзе яна пачала весці факультатыўны курс беларускай мовы. Запісалася 10 вучняў чацвёртых класаў. Яны не прапускаюць заняткаў. Для практычнага вывучэння мовы карыстаюцца беларускай літаратурай, што выдаецца ў Вільні, але тут узнікае праблема з арфаграфіяй, бо гэтыя выданні друкуюцца дарэформенным правапісам, авалодаць якім цяжкавата.

На сустрэчы прысутнічалі выкладчыкі і іншых навучальных устаноў Вільні. Спадар Павел Саўчанка з 55-й школы, спадарыня Міраслава Русак з педагагічнага інстытута, спадар Яраслаў Станкевіч з польскай школы.

Я звярнула ўвагу на добрую беларускую мову спадара Яраслава і папыталася ў яго, ці згадзіўся б ён выкладаць у беларускай школе, калі б яму прапанавалі.

— Хаця я і даўно на пенсіі, але згадзіўся б! Абавязкова згадзіўся б! — запэўніў спадар Яраслаў. Так што ёсць каму выкладаць беларускую мову ў Вільні, было б каму вучыцца.

У Менск мы вярталіся задаволенымі. Сустрэча настаўнікаў адбылася. Хочацца верыць, што гэта — пачатак трывалых сувязяў, сапраўднага адраджэння беларушчыны.

Людміла ШНІП.

## «КАБ ПАЎСЮЛЬ РАДЗІМУ СНІЎ»

Зусім нядаўна беларускае тэлебачанне падрыхтавала выразна запамінальную перадачу — праграма «Адраджэнне» запрасіла нас у госці да беларусаў Санкт-Пецярбурга.

Рэдактар тэлепраграмы Марына Самуйлёнак пазнаёміла гледачоў з нашым знакамітым земляком Валянцінам Грыцкевічам. Ён узначальвае беларускую суполку ў Санкт-Пецярбургу.

— Суполка — неаддзельная частка таго, што дзеецца на Беларусі. Няма зараз другога такога горада, які так цесна быў бы звязаны з працэсамі беларускага Адраджэння,— зазначыў Валянцін Пятровіч.

Алег Лысенка, папрасіўшы прабачэння, што гутарыць на расійскай мове, сваім клопатам, болю за працэс беларусізацыі запэўніў, што перад намі — сапраўдны беларус. Працуе Алег у музеі этнаграфіі. Яшчэ ж з часін Аляксандра Сержпутоўскага гэтая навукова-даследчая ўстанова з'яўляецца важкім цэнтрам па зборы, вывучэнні і захаванні матэрыялаў беларускай этнаграфіі, фальклору. Дарэчы, наш зямляк яшчэ да Першай сусветнай вайны сабраў пяцьдзесят працэнтаў ад сучаснай калекцыі музея этнаграфіі.

Пазнаёміліся тэлегледачы і з літаратарам, мастаком, шчырым беларусам Анатолем Кірвелем. Нельга без хвалявання было слухаць і настаўніцу Аўгінню Кавалюк. На жаль, на Беларусі і ў асяродку літаратараў не часта згадваюць пра гэтую жанчыну. А між іншым, Аўгіння Кавалюк — паэтэса з адметным, лірычным бачаннем навакольнага свету, аўтар вершаваных зборнікаў «Белае дзіва», «Маўклівыя скарбы», «Кропля бурштыну», «Імгненняў след».

Мы шчыра любім той куток,
Што нам падасць вады глыток.
Мы сціпла любім той куток,
Што пасля доўгага расстання
Пакліча моўчкі на спатканне...

Рабочы Мікола Антончык таксама член суполкі. Радзіма яго — Баранавіцкі раён. Пра суполку даведаўся з «лімаўскага» паведамлення. А прыйшоў Мікола на сустрэчу з землякамі, бо хацелася чуць родную мову. «Душа патрабуе»,— гаворыць рабочы.

Душа і сэрца бібліятэкаркі Марыі Ткачэнка таксама патрабуюць судакранання з родным словам. Таму і сын яе размаўляе па-беларуску. Спадарыня Марыя распрацавала і праграму навучання роднай мове. Санкт-пецярбургскія беларусы збіраюцца адчыніць і свой ліцэй.

А ёсць жа ў нас землякі і ў іншых мясцінах. Ды ці адчуваюць яны сябе беларусамі? Будзем спадзявацца, што адказ на гэтае пытанне нам яшчэ неаднойчы дасць праграма «Адраджэнне» Беларускага ТБ.

## БУДНІ ПЕРШАГА МАСТАЦКАГА ЛІЦЭЯ





✦✦✦

Першы мастацкі ліцэй адкрыты пры Беларускай акадэміі мастацтваў. Ліцэісты атрымаюць тут агульную прафесійную падрыхтоўку, шырокую гуманітарную адукацыю і спецыяльнасць майстра народных промыслаў ці кіраўніка мастацкай студыі.

У ліцэі пачнуць вывучаць дзве замежныя мовы — англійскую і французскую, гісторыю, культуру і этнаграфію Беларусі, этыкет, рытміку, танец, рыторыку, логіку і псіхалогію. Выкладанне будзе весціся на беларускай мове. Навуковая ўстанова — асацыіраваны член асацыяцый клубаў ЮНЕСКА.

На здымках: 1. У час індывідуальнай работы па саломапляценні ліцэісткі-дзесяцікласніцы Каця Карачкова (злева) і Лена Ракевіч.

2. У першым класе — урок па выяўленчым мастацтве. На пярэднім плане Даша Забела.

3. У кабінеце выяўленчага мастацтва заняткі па жывапісе з ліцэісткай Таццянай Мацэвіч праводзіць выкладчыца Алена Аляксееўна Карповіч.

*Фота Юрыя ПАЎЛАВА (БЕЛТА).*

✦✦✦



## У рамках выканання праграмы «Спадчына»

Беларуская культура, родная мова сталі асноўнай тэмай літаратурна-мастацкага вечара, які адбыўся ў Жлобінскай раённай бібліятэцы. На мерапрыемства, арганізаванае ў рамках выканання праграмы «Спадчына», былі запрошаны шматлікія госці з Гомельскай вобласці.

Ларыса Фаміна, Тамара Ткачова, Таццяна Яновіч і Іна Палтаран прачыталі вершы, прысвечаныя роднай мове. Аўтарамі гэтых твораў з'яўляюцца паэты Сяргей Сыс, Марыя Смірнова, Вольга Куртаніч, для якіх Жлобіншчына не чужая. «Ізюмінкай» вечара сталі выступленні артыстаў мастацкай самадзейнасці з вёскі Антонаўка пад кіраўніцтвам Валянціны Кавалёвай, а таксама дзіцячага фальклорнага ансамбля гарадскога падлеткавага цэнтра «Факел» пад кіраўніцтвам Клаўдзіі Барый.

Актыўны ўдзел у вечары прынялі і гледачы. Са словам у абарону нацыянальнай культуры выступіла настаўніца СШ № 10 Жлобіна, сябра раённай рады ТБМ імя Ф. Скарыны Л. Турачэўская. Свае новыя вершы прачытала Марыя Смірнова. Госць Жлобіна ганаровы грамадзянін раённага цэнтра празаік Аляксандр Капусцін не толькі расказаў прысутным пра герояў сваіх твораў, але і падарыў жлобінцам ладны стосік кніг з уласнай бібліятэкі.

Мікола ШУКАНАЎ.

# Гродзенскія скаўты

СЁЛЕТА пачалося аднаўленне скаўцкага руху на Беларусі. Нашыўкі з «Пагоняй» і надпісам «Скаўт Беларусі» ўпрыгожвалі блакітныя, колеру гарадскога герба, кашулі гарадзенскіх дзяўчат і хлопцаў у час спаткання з французскімі скаўтамі ў летніку пад Ракавам. Гэта было завяршэнне пэўнага этапу дзейнасці. Зімою 1990 года група сяброў гісторыка-культурнага таварыства «Паходня» — студэнтаў, рабочых, настаўнікаў, інжынераў склалі арганізацыйны камітэт па аднаўленні скаўцкага руху. Здаўна практыкаваная лекцыйна-гутарковая праца па гарадзенскіх школах забяспечвала пэўны сацыяльны грунт. Стараннасць і цікаўнасць кампенсавалі недахоп ведаў і дасведчанасці. Знаёмства з усёй знойдзенай літаратурай па скаўтызме, сяброўскія дыскусіі далі свой погляд на праблему. Вынікам стаў праект «Статута гарадзенскай харугвы скаўтаў» — самадзейнай арганізацыі дзяцей, моладзі і дарослых.

Быў праведзены ўстаноўчы сход, дзе праект зацвердзілі. Але ў адпаведнасці з толькі што прынятым законам за рэгістрацыю запатрабавалі 700 рублёў, якіх не было. А каб і былі, то шкада, бо шмат на што яны б спатрэбіліся. Пакуль абышліся без пячаткі і рахунку. Такой бяды! Галоўнае, што мы пачалі сістэматычна збірацца на заняткі з дзецьмі, патроху спасцігаючы начаткі скаўцкіх навук: сталярылі, шылі, фарбавалі, касілі, ставілі палаткі і распальвалі вогнішча. Часу мала, спраў многа. Не кожны гарадскі хлопец меў раней магчымасць гэтым займацца. З надыходам канікул адна- і двухдзённыя вандроўкі лепш выявілі хібы і недасканаласці. Павысіліся патрабаванні, пачаў складвацца касцяк нашай харугвы, у якую ўваходзяць зараз амаль пяцьдзесят дзяўчат і хлопцаў.

Прыязныя нашаму руху мастакі дапамаглі ў распрацоўцы уніформы. Вельмі паспрыялі ў гэтай справе старшыня гарвыканкама Домаш С. М. і яго намеснік Мелянкевіч А. У. Блакітная кашуля, бела-чырвоны гальштук, чорны берэт з блакітнай кукардай і джынсы — так выглядае скаўт Гарадзенскай харугвы. 4—8 скаўтаў складаюць капʼё — найменшую фармацыю. 2—3 капʼі ствараюць звяз (гурт), а са звязаў складаецца харугва. Харугва мае прыгожы штандар, зроблены сваімі рукамі: чырвонае поле з «Пагоняй», з аднаго боку, і знакам харугвы, з другога. Знак харугвы: стылізаваная лілея з крыжам св. Ефрасінні Полацкай

Не менш клопатаў, чым з уніформай, было з дзецьмі. З розных школ і вуліц, розных узростаў і характараў. Трэба было іх перазнаёміць, здружыць. Тут найлепей надаваліся двухдзённыя вандроўкі. Такі лагерны дзень, пачаты ранішнім рытуалам з узняццем нацыянальнага сцяга, малітвамі (агульнай і спецыяльна скаўцкай), змяшчаў у сабе і вогнішча, і абслугу палатак, і гульні, і купанне, і вылежванне ў цяньку, і сумесную працу. А ўвечары — размова пры агні, рытуал заканчэння дня са скаўцкай малітвай і спевамі.

З улікам характару «Нашага слова» спынімся на адным з кірункаў — адраджэнскім. Сярод мноства рухаў і плыняў скаўцтва можа зрабіць вельмі многа на ніве адраджэння нацыянальнай свядомасці, культуры, мовы. Яму гэта ўласціва ў аснове. Шмат што са скаўцкай сістэмы лёгка распазнаецца ў звычаях беларускай вясковай сямʼі, дзе змалку кожны мае свой абавязак, дзе ўзаемадапамога і клопат кожнага аб усіх, дзе ўсё робяць самі і ўсё ўмеюць. З бегам год набываюць дзеці цэлы комплекс здольнасцей і маральных норм, неабходных чалавеку дзеля годнага жыцця.

Істотна і тое, што скаўцтва нясе свой выхаваўчы ўплыў цераз найбольш адпаведную для дзяцей форму — гульню, забаву.

Савецкая школа ніколі не была нацыянальнай, якімі б выхаваўчымі эксперыментамі яна ні займалася ў сваіх бясконцых кампаніях. Фарміраванне канкрэтнай дзіцячай асобы ў кантэксце нацыянальным заставалася збоку. Сёння ўсё пакуль па-ранейшаму. Таму наш скаўцкі рух па сістэме выхавання павінен быць напоўнены беларускім зместам. Хочацца бачыць наш рух нацыянальнай культурнай школаю з галоўнай ідэяй: вольнае культурнае людское існаванне і развіццё беларускай нацыі ў мірным братэрстве і таварыстве іншых народаў. Менавіта такі падыход павінен замяніць выпрацаваную таталітарызмам сістэму выхавання, дзе ў аснове — змаганне, а ў выніку — абыякавасць, жорсткасць і агрэсіўнасць нашага юнага пакалення. Бо ў гэтай сістэме дзіця не індывідуальнасць, не асоба, а абʼект параўнання (нехта лепшы за цябе, здатнейшы, перадавы): Сталае напружанне, устойлівыя комплексы слабейшых і мацнейшых.

Зусім іншыя нормы паводзін фарміруе хрысціянскі маральны закон. Ён адкідае прысяганне і пакланенне кумірам альбо ідэалам як у асобах людзей, так і ў выглядзе арганізацый, бо гэта пярэчыць Вышэйшай Ісціне. Вера ў вышэйшы сэнс жыцця, у ідэал дабра, высокае разуменне закону, што кіруе жыццём чалавецтва і вядзе да невядомай, але вельмі разумнай мэты,— так светапогляд адпавядае скаўцтву і вызначае ўзровень рэлігійнасці, хоць скаўцтва рэлігійнасць не выхоўвае.

У Гарадзенскай харугве вызнанне існасці Бога — адна з асноўных умоў прыналежнасці да скаўцтва. Кіраўнікі харугвы, старэйшыя сябры, бачаць сваю задачу ў тым, каб данесці да дзяцей у прымальнай форме вось гэтыя асноўныя ідэі. Ёсць падставы меркаваць, што дзеці разумеюць, чаму ў выхаваўчай працы карыстаемся каштоўнасцямі нацыянальнай культуры, а не імперскай маскультурай. Цалкам натуральна ўспрымаецца рабочая мова харугвы — беларуская — дзецьмі з розных семʼяў. Ідэя служэння Бацькаўшчыне, моцны маральны грунт тлумачаць устойлівасць гэтага руху на працягу ледзь не стагоддзя.

На жаль, сёння ўзнікаюць розныя дзіцячыя і маладзёжныя абʼяднанні як спроба камсамольска-піянерскіх структур мімікрыраваць пад скаўцтва. Утылітарна прыстасоўваючы скаўцкія формы дзеля сваіх ідэалагічных мэт і будзённых выгад (замежныя кантакты, паездкі і г.д.), гэтыя структуры імкнуцца знішчыць уплыў наваствораных, пакуль што нешматлікіх груп адраджэнскай арыентацыі. Шматгадовая звычка паразітаваць на грамадстве не дае ім спакою! Што, здавалася б, шкодзіла ім пры такой матэрыяльнай базе весці да росквіту свой камсамольскі рух? Відаць, нешта замінала. То не псуйце ж людзям працу! Спаборнічайце, а не прафануйце іх сімвалы і ідэі.

За параўнаўча кароткі тэрмін не ўсё пералічанае было дапрацавана і даведзена да дасканаласці. Але мы змаглі выправіць дзеяздольную групу з 17 чалавек для ўдзелу ў летніку з французскімі скаўтамі. Беларускіх удзельнікаў было больш за 100, а французскіх каля 300. Беларускі склад быў стракаты і па ўзросту, і па падрыхтоўцы, і па адносінах да скаўцтва. Але найбольш біла ў вочы безаблічнасць беларускага боку. Накірунак прызямленасці лунаў бачна і нябачна над добрай і карыснай справай. Не хапала арганізацыйнай афармленасці, абмундзіроўкі і рыштунку, а, галоўнае, жадання быць сабою.

На гэтым фоне нашы сціплыя старанні ад пачатку надаць скаўцтву Беларусі сваю адметнасць, каб і самім было цікава і для гасцей быць цікавымі, не засталіся незаўважанымі. І то з розных бакоў! Тут і пытанне-загад: «Вы что, не умеете говорить нормально?», і зняважліва-паблажлівы зварот «браткі-беларусы», і спробы ганьбавання нацыянальнага сцяга. Але, на сорам манкуртам, было і іншае. Самі юныя французы заўважылі, што нашы хлопцы размаўляюць не на расійскай мове. І запыталі: што і як? Шаноўныя арганізатары не даўмеліся давесці гасцям, што зямля, куды яны едуць, не Расія, а Беларусь. І на ёй жыве народ 1000-гадовай культуры. З цікавасцю ішоў паскораны курс усведамлення ў «Летніку 7 дзён», дзе жылі 17 гарадзенцаў і каля 50 французаў. Неўзабаве французы казалі «дзякуй», «дабранач» і г.д. Неістотна, што яны не будуць вывучаць беларусістыку, што, можа, хутка і забудуцца на гэтыя словы. Але, пэўна ж, у сэрцах іх застанецца памяць аб народзе, на зямлі якога яны пражылі кароткія, але цікавыя дні, застануцца пачуцці сяброўства з дзецьмі гэтага народа.

Гэты сяброўскі кантакт ці не ўпершыню адбываўся без пасрэдніцтва «старэйшага брата». Можа, стане ён пачаткам усведамлення, што павага і цікаўнасць прыходзяць праз самапавагу і ўменне быць цікавым для іншых. Так прыходзіць тая нацыянальная свядомасць, пра якую мы часта гаворым.

Аналізуючы высновы вясенняй і летняй працы, харугва складае планы далейшай дзейнасці. Мяркуем пашырыць працу з дзяўчаткамі, кантакты са скаўцкімі групамі іншых гарадоў і суседніх краін. З першых дзён верасня пачалі рыхтаваць летнік будучага сезона. Мы бачым гэты летнік са скаўцкімі групамі Менска, Маладзечна, іншых гарадоў. Рыхтуем шэраг акцый на карысць горада. Няхай сабе простых, нягучных, але патрэбных людзям. Скаўты павінны несці карысць у адпаведнасці з асноўнымі прынцыпамі сваёй арганізацыі: «Бог і Бацькаўшчына», «Скаўцкае права», «Добры ўчынак».

На заканчэнне прапануем усім і кожнаму наш дослед і дапамогу ў гэтай цікавай справе.

А. ЖУКОЎСКІ.
г. Гродна.

# На зямлі Аргенціны

## ПА МАТЭРЫЯЛАХ ЗАМЕЖНАГА ДРУКУ

Рознымі шляхамі трапілі на чужыну беларусы, у розных краінах яны апынуліся. Доўгі час пра іх мала што было вядома, бо гэта тэма была ў ліку «забароненых». І толькі ў апошнія гады зʼявіўся шэраг артыкулаў пра беларускае замежжа. Гэтыя нататкі пра адну частку беларускай дыяспары — аргенцінскую.

Па абсалютнай колькасці выехаўшых беларусаў Аргенціна займае ці не першае месца, аднак беларускі нацыянальны культурны рух там цяпер амаль не выяўляецца. Звязана гэта галоўным чынам з малалікасцю пасляваеннай эміграцыі, бо менавіта ёю створаны на Захадзе ўстойлівыя цэнтры беларускай культуры. Паваенная эміграцыя з Беларусі асела пераважна ў ЗША, Англіі, Канадзе ды Нямеччыне, беларускае ж насельніцтва Аргенціны, як і ў цэлым Паўднёвай Амерыкі, склалася ў першых дзвюх эмігранцкіх хвалях: да 1914 і ў 1920—1930-х гадах. Тым не менш гэта адна з найцікавейшых старонак гісторыі беларускай эміграцыі.

Першыя беларусы на берагах Параны зʼявіліся ў 1880-х гадах. Гэта былі выхадцы з Віленскай, Менскай і Гродзенскай губерняў. З Магілёўскай, Віцебскай і Смаленскай губерняў беларусы выязджалі пераважна ў Сібір, Маньчжурыю, Далёкі Усход. Вербавалі перасяленцаў канторы «Дабравольнага флоту» ў Барысаве, Менску, Беластоку, Дзвінску, Бельску, Гродне, Вільні і Брэсце, а таксама нелегальныя вярбоўшчыкі. Масавы характар набыла эміграцыя з Беларусі ў 1905—1913 гадах. Зарабіўшы на чужыне грошы, большасць эмігрантаў вярталася дамоў і ўкладвала сродкі ў свае гаспадаркі. Усяго да пачатку Першай сусветнай вайны ў краіны Новага Свету выехала каля 800 тысяч нашых суайчыннікаў, а не вярнулася з іх толькі каля 200 тысяч. Па Аргенціне гэтыя лічбы складаюць адпаведна 300 і 90 тысяч. Эміграцыю спыніла вайна, але неўзабаве пасля Рыжскага пагаднення пачалася другая хваля перасялення заходнебеларускіх сялян за акіян.

Жыццё эмігрантаў было незайздросным. У асноўным яны папаўнялі шэрагі пралетарыяў. Арганізацыйныя цяжкасці пры ўладкаванні на працу прымушалі звяртацца да польскіх афіцыйных улад, якія праводзілі шавіністычную палітыку, прымушаючы ўступаць беларусаў у польскія арганізацыі. Тым не менш беларусы ў сваёй большасці не забывалі пра сваё паходжанне, стварылі нацыянальна-культурныя асяродкі. Так, у 1928—1929 гадах быў утвораны «Саюз украінскіх рабочых», у якім былі і беларускія секцыі. Змест дзейнасці гэтай арганізацыі складаўся пераважна з асветніцтва і культурных мерапрыемстваў, аднак многія актывісты «Саюза...» бралі ўдзел і ў прафсаюзным руху. Ён арганізоўваў адукацыйныя курсы, выдаваў газеты на ўкраінскай, беларускай і расійскай мовах, збіраў заходнебеларускую і савецкую літаратуру.

Пасля дзяржаўнага перавароту ў Аргенціне (1930 г.) «Саюз...» дзейнічаў падпольна, многія актывісты былі арыштаваны ці высланы ў Польшчу, нацыянальная дзейнасць беларускіх секцый паступова згасала. У 1932 годзе «Саюз...» быў перайменаваны ў «Саюз украінскіх і беларускіх рабочых арганізацый», а ўжо ў 1934 годзе узнікла незалежнае згуртаванне «Беларускае грамадска-асветнае таварыства». Першыя асяродкі яго былі ў Буэнас-Айрэсе, Санта-Фэ, Расарыо. Культурная праца таварыства хутка пашыралася. Сталі працаваць асветныя курсы, чыталіся даклады на тэмы беларускай гісторыі і культуры. У Таварыстве існавалі культурная, тэатральная ды іншыя камісіі, юнацкія і жаночыя секцыі, драматычны гурток, хор, струнны аркестр. Даходы ад канцэртаў, спектакляў і кінематаграфічных вечароў прызначаліся на арганізацыю ў Буэнас-Айрэсе беларускай бібліятэкі. Следам за першым нацыянальным згуртаваннем узніклі і іншыя: бібліятэка імя Івана Луцкевіча (1937 г.), таварыства «Культура» (1937 г.), таварыства «Белавеж» (1938 г.), а затым «Якуб Колас». У 1939 годзе гэтыя арганізацыі абʼядналіся ў «Федэрацыю Беларускіх Таварыстваў і Арганізацый у Аргенціне». Гэта дазволіла больш планамерна займацца культурнай працай сярод эмігрантаў. Галоўныя дзеячы арганізацыі: Мікола Мярэчка, Уладзіслаў Гайлевіч, Якуб Пятруша. Ад 1940 года «Федэрацыя...» выдавала штогадовы гісторыка-літаратурны альманах, штогод ладзіліся таксама кангрэсы беларускіх таварыстваў Аргенціны і Уругвая.

Дэмакратычныя краіны Захаду клапоцяцца пра духоўныя і матэрыяльныя запатрабаванні суайчыннікаў за мяжой, разумеючы іх важную ролю ў нацыянальнай культуры. Беларуская эміграцыя арганізацыі заўсёды разлічвалі толькі на ўласныя сілы. Калі савецкую дзяржаву яны цікавілі, дык звычайна з мэтай вярбоўкі там супрацоўнікаў усемагутнага КДБ (шпіёнаў і правакатараў). Не абмінула гэта і аргенцінскую беларускую грамаду, якая больш паважна ставілася да Савецкай радзімы, чымсьці гэтая радзіма да сваіх дзяцей на чужыне.

З першага дня Вялікай Айчыннай вайны аргенцінскія беларусы ўзяліся збіраць грошы на дапамогу Бацькаўшчыне. Пры кожным таварыстве ўтварыліся адпаведныя групы, якія каардынаваў часовы камітэт. 7 красавіка 1942 года ўтварыўся «Беларускі Дэмакратычны Камітэт Дапамогі Радзіме», які разгарнуў працу па ўсёй краіне. Пасля дзяржаўнага перавароту 1943 года ўсе беларускія арганізацыі, акрамя гэтай, былі забаронены.

Трагічны перыяд у гісторыі беларускага руху пачаўся ў 1945 годзе, калі, як ні дзіўна, у Аргенціне зноў была дазволена дзейнасць нацыянальна-культурных беларускіх арганізацый. У гэтым годзе ўтварыўся «Саюз Беларускіх Культурных Арганізацый», які ўвайшоў у «Славянскі Саюз» — прасавецкую арганізацыю.

22 красавіка 1945 года з ініцыятывы беларускіх культурных таварыстваў у Саенс Пеня, Касерос, Рамос, Мехія, Док-Суд і Олівас адбыўся сход беларускіх дэлегатаў, якія вырашылі утварыць Беларускі Культурны Цэнтр імя Горкага — згуртаванне беларусаў Буэнас-Айрэса і ваколіц. Афармілася арганізацыя 31 чэрвеня 1945 года.

Апроч вышэйпамянёных, у Аргенціне існаваў шэраг іншых беларускіх згуртаванняў: таварыствы «Янка Купала» (1946), «Менск» (1939), «Саенс Пеня» (1941), «Георгій Скарына» (1941), бібліятэка імя Купалы (1944), падкамітэты дапамогі Радзіме і інш. Працавалі таксама супольныя беларуска-ўкраінскія таварыствы «Іскра», «Адзінства», таварыства ў Касерас і г.д. Усе яны былі розныя па ідэалагічнай і палітычнай накіраванасці, але ў пасляваенныя часы большасць з іх скаардынавалася з «Саюзам Беларускіх Культурных Арганізацый» у складзе «Славянскага Саюза» і выступала на ягоных пазіцыях. Разрозненасць, часам супрацьстаянне беларускіх грамадскіх арганізацый ды іх лідэраў адмоўна адбілася на стане нацыянальна-культурнай працы беларусаў. Органам беларускай грамады ў «Славянскім Саюзе» была газета «Наш голас», якая выходзіла на беларускай і рускай мовах.

Двойчы ў паваенны час (1946—1947) учыняліся зʼезды беларускіх арганізацый. Сітуацыя супрацьстаяння ў беларускай грамадзе была ў цэнтры ўвагі гэтых зʼездаў. На першым з іх старшыня аргкамітэта Ляшчук у справаздачным дакладзе сказаў: «Сурʼёзнасць моманту, у якім адбываецца наш зʼезд, абавязвае кожнага беларуса, кожнага чэснага патрыёта перамагчы варожасць і падазронасць і аддаць сябе ў распараджэнне агульнай справе, каб даказаць сабе самому і ўсім іншым, што беларусы ў Аргенціне зʼяўляюцца годнымі сынамі сваёй радзімы і ўсёй славянскай сямʼі і гатовы працаваць разам з аргенцінскім народам для міру і прагрэсу чалавецтва». Не будзем гадаць, што меў на ўвазе «таварыш» Ляшчук пад «агульнай справай», але крах ягоных спадзяванняў стаў відавочным у 1949 годзе, калі аргенцінскі ўрад выкрыў «Славянскі Саюз» і ўсе прыналежныя да яго таварыствы як камуністычную агентуру. Ацалелі толькі створанае ў 1948 годзе нешматлікай пасляваеннай эміграцыяй «Згуртаванне беларусаў у Аргенціне» ды бібліятэка імя Луцкевіча. Пасля сакрушальнага ўдару, якім стаўся для беларускай культурна-асветнай працы роспуск «Славянскага Саюза», беларускі рух так і не акрыяў.

Дэмаграфічныя падлікі паказваюць, што на цяперашні час у Аргенціне жыве каля 500 тыс. нашчадкаў выхадцаў з Беларусі. З іх у 1987 годзе толькі пяць тысяч называлі сябе беларусамі. Бадай адзінай праявай беларускасці большасці з іх засталася прыхільнасць да праваслаўя. Хоць існуе яшчэ «аўтаномная» беларуская у асяроддзі эмігрантаў перыяду міжваеннай Польшчы і яшчэ больш даўніх перасяленцаў. Родную мову яны амаль не ведаюць, аднак яшчэ спяваюць беларускія песні, танцуюць «Крыжачок» і шануюць Купалу нароўні з Пушкіным і Шаўчэнкам.

Гісторыя нас вучыць многаму. Многаму можа навучыць і гісторыя беларускай эміграцыі, дасягненні якой у пэўных галінах нацыянальнай навукі і культуры часам перавышаюць айчынныя. Адышла ў нябыт беларуская грамада ў Аргенціне. Пад пагрозай згасання беларускія асяродкі ў іншых краінах. Яны не могуць доўга ўтрымацца без пастаяннай сувязі з Бацькаўшчынай, у чужым моўным асяроддзі. Затое эмігранцкія калоніі, калі яны дзейсныя, значна ўплываюць на палітыку дзяржавы, у якой жывуць, як і на палітыку краін Захаду ў цэлым. Іх зацікаўленасць у культурным і эканамічным супрацоўніцтве з Беларуссю, шчырая бескарыслівая дапамога ахвярам чарнобыльскай катастрофы павінны пераканаць наш урад у неабходнасці пашыраць і мацаваць кантакты з замежнымі суродзічамі, абапіраца на іх дапамогу і падтрымку і ў сваю чаргу спрыяць развіццю і захаванню нацыянальных асяродкаў беларусаў ва ўсіх кутках свету.

Юльян ГАЙДУК.
г. Менск.



© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014




## Сказаць па-беларуску...

Накладам 30 тысяч паасобнікаў у выдавецтве «Навука і тэхніка» пад грыфам Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны выйшаў у свет «Малы руска-беларускі слоўнік прыказак, прымавак і фразем».

Як сказаць па-беларуску: «бабушкины сказки», «задним умом крепок», «делу — время, а потехе — час», «на чужой каравай рот не разевай»? На гэтыя і многія іншыя пытанні чытачы знойдуць адказ у кнізе.

У першай частцы слоўніка змешчана больш за 1300 рускіх і адпаведных ім беларускіх прыказак, прымавак і фразем, якія найбольш шырока ўжываюцца. У другой частцы падаецца спіс беларускіх адпаведнікаў, які дае магчымасць чытачу карыстацца слоўнікам як адваротным.

Даведачнае выданне склаў і падрыхтаваў да друку Зьміцер Санько. Такі слоўнік выдаецца ў Беларусі ўпершыню.

### *Усякаму слову — сваё месцейка*

Яшчэ зусім нядаўна мы бедавалі аб нястачы слоўнікаў, з дапамогай якіх можна аваладаць беларускай мовай. Не будзем спяшацца з высновай, што ўсё, маўляў, зараз наладзілася. Але і не такія ж ужо мы бедныя. Цяпер у кнігарнях Менска лёгка можна набыць слоўнік Грабчыкава, які адрасаваны тым, хто робіць першыя крокі ў авалодванні мовай.

Выйшаў з друку і «Слоўнік амонімаў беларускай мовы» В. Дз. Старычонка (Менск, 1991) накладам 8300 экземпляраў. Асабіста для мяне амаль дзве тысячы слоўнікавых артыкулаў — захапляючае чытанне. А некаторыя сустрэчы са словамі — сапраўдныя адкрыцці іх новых значэнняў. Напрыклад, слова «бяда» існуе не толькі ў сэнсе «гора», «няшчасце», але і «лёгкі вазок», «двухколка». Так што на «бядзе» і ў госці можна з'ездзіць, і каня запрэгчы ў «бяду».

Побач з добра вядомымі слоўнікамі з амонімамі знаёмяць і дыялектныя слоўнікі. У прыватнасці, і такія, якіх зараз, акрамя як у «Ленінцы» ды ў бібліятэцы АН БССР, наўрад дзе і знойдзеш: «Віцебскі краёвы слоўнік» М. Каспяровіча (Віцебск, 1929), «Краёвы слоўнік Чэрвеньшчыны» Н. Шатэрніка (Менск, 1929).

«Слоўнік амонімаў беларускай мовы» прыйшоў да чытача. Як толькі вось ён будзе разыходзіцца? На маю думку, тут патрэбна палупіцца і мясцовым суполкам ТБМ, каб кніга не ляжала ў кнігарнях мёртвым грузам.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

ДАПЫТЛІВАМУ

**КАРОТКІ СЛОЎНІК ЭКАНОМІКІ**

**Марудна, няўпэўнена, але, здаецца, пачалі рухацца да рынку (не блытаць з Камароўскім у Менску).**

**А ў яго свая тэрміналогія, і ўсім нам давядзецца яе засвойваць.**

**Дык, відаць, і пачнём з гэтага слова — *рынак*, нават вылучыўшы яго з алфавітнага шэрагу, нібы якую каралеўскую асобу. А што рабіць?**

**Рынак, як мы ўжо адзначалі, мала нагадвае Камароўскі. Тлумачальны слоўнік беларускай мовы, праўда, дае ў якасці галоўнага другаснае, «наша» тлумачэнне гэтага слова — «месца рознічнага гандлю спажыўнымі прадуктамі і іншымі таварамі», сціпла дадаючы цюркскае абазначэнне гэнага пачэснага збору гандляроў, пакупнікоў і... прайдзісветаў — «базар». Але ўсё ж першаснае, заходнееўрапейскае яго значэнне — сфера таварнага абарачэння, сістэма (са сваімі цвёрдымі законамі!) эканамічных сувязей паміж таваравытворцамі, з дапамогаю якой ажыццяўляюцца прапановы і попыт на тавары ў маштабах гаспадаркі ці то асобнай краіны, ці нейкай садружнасці (Еўрапейскай, напрыклад, якую ў нас нядаўна лаялі), ці, нарэшце, сусветнага характару.**

*Уладзімір СОДАЛЬ*

## *Як нас чуюць?*

**Даўно пераканаўся, што мы, беларусы, са сваёй беларускай моваю можам быць зразуметы ў нашай шматнацыянальнай краіне. Гэтаму спрыяе веданне неславянскімі народамі рускай мовы. А з украінцамі, палякамі, чэхамі, балгарамі, харватамі ды іншымі нашымі пабрацімамі можам абыходзіцца і без мовы-пасрэдніцы. Прывяду некалькі прыкладаў, як нас «чуюць» і разумеюць прадстаўнікі іншых народаў. Пры гэтым больш бывае паразуменняў, чым непаразуменняў.**

**Юрмала. Сталоўка. Заканчваю палудняваць (дапіваю каву). Падыходзіць пасудамыйка (латышка) і пытаецца па-расійску, ці можа яна прыбраць са стала. Я кіўнуў галавой і адказаў: «Калі ласка». Гэтыя мае словы выклікалі, аднак, замяшанне. Жанчына, відавочна, мяне не зразумела: прыбіраць ёй посуд ці не прыбіраць. Мы з ёй разгаварыліся і, урэшце рэшт, паразумеліся. Словы «калі ласка» латышка запомніла на ўсё жыццё.**

**У той жа Юрмале заходжу ў гасцінічную службоўку. Дзве пакаёўкі размаўляюць між сабой па-латышску. Адна пытаецца, чаго я хачу. Таксама па-латышску. А я ім па-беларуску: ці маюць яны прас? Хвіліннае непаразуменне. Паказваю на штаны: пакамечыліся, кажу, папрасаваць трэба. Пакаёўкі здагадваюцца, чаго я хачу, смяюцца і падаюць мне прас.**

**1960 год. Мы, студэнты Менскага педінстытута, працуем падсобнікамі ў літоўскім калгасе. Разам з намі працавалі літоўскія студэнты — інжынерамі, прарабамі. Вось скончылі мы апалубку. Я падыходжу да аднаго хлопца-прараба і кажу: «Апалубку скончылі. Што далей *рабіць?*» Сказаў проста, натуральна, не думаючы, што мяне не зразумеюць. Якое ж было маё здзіўленне, калі пачуў спалоханае: «Зачем *рубить?* Строить надо!»**

**Вяртаўся я з Брэста. У купэ зайшлі дзве танклявыя дзяўчынкі. Яны паспрабавалі пакласці свае рэчы на верхнюю паліцу. Але не змаглі. Я падмог ім. За паслугу пачуў: «Спа-сы-бо!» Прыслухаўся да гаворкі — англійская. Разгаварыліся. Дзе жэстам, дзе словам — беларускім, англійскім, рускім. Высветлілася, што мае спадарожніцы —амерыканкі з Каліфорніі, а едуць у Маскву. Я ім патлумачыў, што зараз едзем праз Беларусь. На паперы напісаў ім лацінскімі літарамі: «Беларусь». Затым патлумачыў, што рускае «спасибо» па-беларуску гучыць «дзякуй». Дзяўчаты з якойсьці асалодай вымаўлялі гэтыя беларускія словы, асабліва ім спадабалася наша «дзякуй». Праўда, яно ў іх гучала «джякую».**

**Наша слова «бульба» ведаюць усе народы. Яго не трэба нікому тлумачыць. Бываючы ў Летуве, я заўсёды прасіў: «Мне бульбачкі!» — і ўсё ўсім было зразумела, ніхто не прасіў патлумачыць слова. Згадваецца таксама, што ў літоўскіх установах, архіве, бібліятэках мне заўсёды казалі: «Гаварыце на роднай мове, калі чаго не зразумеем — перапытаем». І мне заўсёды было прыемна, што я ўсюды магу паразумецца праз сваю мову. То як жа не даражыць такім скарбам, як наша беларуская мова, як не шанаваць яе?! Клопат кожнага з нас пры нагодзе знаёміць народы свету з нашай мовай, паказваць яе хараство і прыгажосць, шматфарбнасць у суквецці іншых моў, каб нас успаміналі, як я вось успомніў сваіх сумоўнікаў.**

Урокі

*Уладзімір ЛАМЕКА*

## Ад піктаграмы да літары

**ПІСЬМО мае доўгую — у некалькі тысяч гадоў — гісторыю свайго развіцця. Яно прайшло складаны шлях ад прымітыўных малюнкаў да самых дасканалых графічных форм і стала найважнейшым сродкам камунікацыі, без якога нельга ўявіць жыццё сучаснага грамадства.**

**Сапраўдная гісторыя пісьма пачалася з таго часу, калі людзі навучыліся перадаваць інфармацыю на спадручных матэрыялах (камені, дрэве, косці, бяросце, папірусе) пры дапамозе графічных знакаў. Праўда, задоўга да ўзнікнення знакавага (начартальнага) пісьма існавалі ў свеце разнастайныя спосабы зносін людзей пры дапамозе прадметаў і рэчаў. Напрыклад, было перуанскае «пісьмо» *кіпу* ў выглядзе рознакаляровых суконных шнуроў з завязанымі на іх простымі і складанымі вузламі, кожны з якіх нёс пэўную інфармацыю; вядома іракезскае «пісьмо» *вампум* з нітак, на якія нанізвалі ракушкавыя кружочкі рознага колеру і памеру, ніткі злучалі разам, утвараючы шырокія паясы — «пісьмы». Пры дапамозе такіх паясоў некаторыя плямёны амерыканскіх індзейцаў (іракезы, алганкіны) маглі нават заключаць мірныя пагадненні і саюзы паміж сабою. У многіх народаў першабытнай культуры былі распаўсюджаны дашчаныя біркі з зарубкамі, што выкарыстоўваліся, як правіла, пры замацаванні гандлёвых, фінансавых і іншых адносін паміж плямёнамі. Дарэчы, такімі біркамі — «пісьмамі» карысталіся і славяне, называючы іх «носамі». Яны насілі з сабою дошчачкі, на якіх рабілі разнастайныя знакі, зарубкі. Адсюль, на думку многіх даследчыкаў мовы, паходзіць выраз «зарубіць на носе», г. зн. запамятаць раз і назаўсёды. Вядома, такія спосабы зносін паміж людзьмі не былі пісьмом у літаральным сэнсе гэтага слова, але яны сталі падрыхтоўчым этапам пры спасціжэнні чалавецтвам сістэмы начартальнага пісьма.**



Перуанскае «пісьмо» *кіпу.*

**Пачатковы этап начартальнага пісьма — перадача інфармацыі праз піктаграмы (малюнкі). Імі пачалі карыстацца прыкладна ў 8—6 тысячагоддзях да нашай эры, у эпоху фарміравання плямёнаў і саюзаў. Піктаграмы — гэта схематычныя малюнкі, сутнасць якіх заключалася не ў мастацкіх вартасцях, а ў здольнасці несці пэўную інфармацыю адрасату.**

**ПІКТАГРАФІЯ (малюнкавае пісьмо) не звязана з канкрэтнымі мовамі, таму ёю карыстаюцца ў наш час, імкнучыся зрабіць інфармацыю даступнай прадстаўніку любой краіны свету. Прыгадаем малюнкі ў вітрынах магазінаў, спартыўную сімволіку, дарожныя знакі і г. д., якія аднолькава чытаюцца носьбітамі розных моў. Гэта, несумненна, станоўчы факт, аднак малюнкавае пісьмо не можа перадаваць абстрактныя паняцці, таму на пэўнай ступені развіцця грамадства яно перастала задавальняць яго патрэбы, узнік больш дасканалы тып — ідэаграфія (у перакладзе з грэчаскай мовы — запіс паняцці).**

**У адрозненне ад піктаграфіі, ідэаграфічнае пісьмо перадае змест любой інфармацыі дакладна і фіксуе парадак лексічных адзінак у тэксце. Яго развіццё стымулявалася прагрэсам грамадства: патрэба пісаць хутчэй, перадаваць доўгія і складаныя тэксты вяла паступова да схематызацыі малюнкаў, якія на пачатку трацілі сваю нагляднасць, потым пачыналі выступаць як умоўныя знакі пры абазначэнні шматлікіх паняццяў. З цягам часу умоўнасць гэтых адзінак павялічылася настолькі, што яны набылі выгляд *іерогліфаў* — фігурных знакаў, якія абазначаюць цэлыя словы, склады або гукі. Такім чынам узнікла іерагліфічнае пісьмо. Вядома шмат яго разнавіднасцей. Старэйшай з тых, якімі карыстаюцца нават сёння, з'яўляецца кітайская пісьменнасць. Яна існуе больш як тры тысячы гадоў. Неаднойчы рабіліся спробы перадаць гучанне кітайскіх іерогліфаў сродкамі фанетычнага алфавіта, аднак усе, хто пачынаў складаць такі алфавіт і ўкараняць яго ў жыццё, сутыкаліся з цяжкасцямі, абумоўленымі як лексіка-граматычнымі асаблівасцямі кітайскай мовы, так і разнастайнасцю грамадска-эканамічнага і палітычнага жыцця Кітая. А іншы раз, відаць, і загадкай іерогліфа...**

**ІДЭАГРАФІЧНЫЯ СІСТЭМЫ «эканомныя» ў параўнанні з іншымі тыпамі пісьма. Яны перадаюць, як правіла, адным знакам цэлае слова, аднак з-за сваёй груваcткасці вельмі цяжкія для засвaення. Гэта, бясспрэчна, паслужыла асноўнай прычынай пераходу чалавецтва ад ідэаграфіі да складовых, а потым літарна-гукавых сістэм графікі.**

*(Працяг будзе).*

*Андрыс КОЛБЕРГС*

# ЗАБОЙСТВА ПА ТЭЛЕФОНЕ

***У 1992 годзе ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» выйдзе зборнік прозы А. Колбергса — латышскага пісьменніка, які цікава і стала працуе ў жанры дэтэктыву. «Забойства па тэлефоне» — апавяданне, якое дало назву ўсёй кнізе. Акрамя апавядання, у зборнік увойдуць раманы «Аголеная са стрэльбай» і «Цень».***

Хоць дзень быў яшчэ ў разгары, але ў паўпадвальным памяшканні, якое асвятлялася вялікаю заседжанаю мухамі лямпачкай без плафона, даўно пабітага, бо шкла на падлозе не было, труп хударлявай бабулі на ўплясканым матрацы сярод бруднай бялізны разглядзець было немагчыма. Толькі адсвечвалі ўбітыя ў яе горла ножанкі. Каб іх кольцы былі ў пластмасе, як цяпер ножанкі выпускаюць, то заўважыць іх было б цяжка. Крыві мала, відаць, уся ўсмакталася ў падушку і матрац. Ды і колькі яе магло быць у целе гэткай выпетралай старое!

— Ну і што ты пра ўсё гэта думаеш?— пытае ў мяне следчы. Ён сядзіць на адзіным крэсле за адзіным у памяшканні сталом. Раскладзеныя паперы прыхавалі частку стальніцы з адбіткамі-кругамі ад бутэлек, з клінападобнымі колатымі дзіркамі ад нажа і выразанымі імёнамі «Жорж», «Сандра», «Тузік» і іншымі словамі. Калі меркаваць па краях выразаных слоў, рабілі гэта дзе тупым, а дзе вострым нажом. Шэдэўры гэтыя такія старадаўнія, што маюць ужо гістарычную каштоўнасць.

Крэсла пад калегам раптам падазрона схіснулася, перакасіўшыся ва ўсіх месцах, дзе магла быць склейка. Але следчы, балансіруючы, як на серфінгу, захаваў раўнавагу.

— Рэкет,— адказваю я і тут жа разумею, што як прафесіянал пажартаваў не вельмі ўдала.

Следчы глянуў на мяне як на чалавека з вывіхнутымі глуздамі, рагатнуў і працягваў пісаць.

Эксперт ужо зняў з тэлефоннай трубкі адбіткі пальцаў, і я магу пакарыстацца тэлефонам: званю, каб выслалі машыну і забралі труп Эмы Кірко. Абяцаюць прыехаць праз гадзіну, значыць, заявяцца праз дзве.

Мне раптам падумалася, што няма нічога больш простага, чым скласці вопіс маёмасці ў гэтай кватэры — стол, крэсла, матрац, тумбачка з тэлефонам. Калі з яе вынялі бабуліны паперы, дзверцы засталіся расчыненыя. У тумбачцы не хапае сярэдняй палічкі, а на ніжняй валяюцца два фотаздымкі. Яны аматарскія, якасць іх невысокая, прытым аддрукаваныя на кепскай паперы. На абодвух знята вясёлая кампанія сярод бутэлек і кілішкаў. Здымкі я кладу на стол, дзе і астатнія дакументы нябожчыцы, у тым ліку працоўная кніжка. Я прагледзеў ужо яе і, вядома ж, заўважыў тое, што павінен быў заўважыць. Запісы ў кніжцы вядуцца з пяцьдзесят першага года: «прынятая шліфавальшчыцай у цэх абажураў». Эма Кірко так часта мяняла работу »па ўласным жаданні» і з-за прагулаў — па жаданні адміністрацыі, што кадравікам давялося ўклейваць у кніжку дадатковыя старонкі. Спачатку ў ёй сустракаліся запісы пра больш-менш кваліфікаваныя прафесіі, а потым — толькі «рознарабочая» або «прыбіральшчыца». Звычайна такія месцы пустуюць, і адміністрацыя радая прыняць любога, разы са дватры, можа, і прыцягнецца на работу і, калі не нап'ецца да чорцікаў, то крыху папрацуе. Ну, а калі зусім перастане з'яўляцца — уставяць пяро ў зад і хай ляціць.

— Не, напраўду, што ты пра гэта думаеш? У яе кашальку я знайшоў адзінаццаць рублёў.

Гэта — кідаючы позіркі на панятых, мужа і жонку сярэдняга ўзросту.

Суседзі з другога паверха. Сядзяць на прынесеных з сваёй кватэры табурэтках, ды гэтак ужо блізенька адно да аднаго, што зусім закрылі сабою пліту, застаўленую бруднымі каструлямі. Гаворачы слова «рэкет», я, можа, і падвысіў сябе ў іх вачах, але зараз яны разззлаваныя адно на аднаго: праз уласную цікаўнасць уляпаліся ў такую гісторыю! Цяпер некалькі гадзін пратырчыш у гэтай памыйцы. Яны, напэўна ж, самі ў сябе пытаюць: а што я мог у Эмы ўбачыць? Брыльянты? А раптам напраўду брыльянты?.. Звычайна людзі, даведаўшыся пра забойства якой-небудзь старой, адразу пачынаюць прыдумоўваць: відаць, мела прыхаваныя брыльянты ці пяцілатовікі, якія хавала ў іржавай бляшанцы...

— Адзінаццаць рублёў? Наўрад ці гэта мяняе сутнасць справы... У гэтага... у такіх выпадках язык не паварочваецца сказаць «забойцы», бо ён сам і ахвяра... у гэтага крэтына было пакутлівае пахмелле — мо кішкі пераварочвала, рукі і ногі трэсліся, ён...

— Паталагаанатам сказаў, што забойства адбылося ўчора вечарам паміж восьмай і адзінаццатай.

— Правільна. Дзённы кайф пад той час выпшыкаўся, і ён напрамілы бог прагнуў зноў падзаправіцца. Нічога незвычайнага... Усе гэтыя забойствы падобныя адно на адно, як блізняты.

Гляджу на панятых і прымаю рашэнне — пачну апытваць з жанчыны.

— Эма не гандлявала гарэлкаю?

Жанчына мнецца.

— Ды смялей вы. Ёй вы ўжо нічым не нашкодзіце.

— Раней хіба... А цяпер...

— Пенсія ж у яе маленькая, а тут нават памерці колькі грошай трэба... — сярдзіта ўстаўляе мужчына.— Прадасць ноччу — вось і капейка на абыходак... на лякарства... дый...

— ...дый самой кропля ці дзве перападзе! — даказаў я за жанчыну.

— Не, у апошнія гады яна ўжо не піла, толькі па тэлефоне мянціла языком. Гадзінамі проста! Тыя, з кім яе тэлефон зблакіраваны, скардзіліся, што не можна было куды пазваніць,— заняты і заняты.

— З кім яна размаўляла? Сваякі ў яе ёсць?— Тэлефон неяк кепска стасаваўся да ходу падзей, якія ўжо выстройваліся ў маім уяўленні.

— А ліха яе ведае! Мо са сваімі сяброўкамі... Мо з урачамі... А мо наўгад набірала нумар і балбатала... Калі яшчэ на тым канцы провада траплялася такая самая, то і менцяць языкамі, пакуль трубка не перагрэецца... Па тэлефоне ж можна кожнаму быць кумам каралю і сватам міністру... Бо інакш... Ну хто мог сюды прыходзіць да яе, выслухоўваць усё? Тут кожны адразу зразумее — адна кашуля на плячах дый тая з дзіркамі...

— Вы не закончылі пра тое, як яна гандлявала гарэлкаю,— следчы перапыняе мужчыну.

— А чаго тут канчаць, калі і так усё ясна. Гады з два назад ці тры,— муж кінуў позірк на жонку, нібы чакаў, каб яна пацвердзіла,— неяк уночы выламалі дзверы... з таго часу яны не зачыняюцца. А калі дзверы адчыненыя, то і швэндаюцца ўсякія, каму калі ўздумаецца... Адзін раз у яе ўсю гарэлку забралі. Другі раз усе грошы вычысцілі, а самую так высвенцілі, што з кватэры не выходзіла, усё адлежвалася.

— У міліцыю яна заяўляла?— пытае следчы.

— А што заяўляць, калі дзверы не зачыняюцца. Як зальюць вочы, дык адразу ідуць яе лупіць... Вы ж не прыставіце да яе ахоўнікаў!

— Яна ведала сваіх крыўдзіцеляў?— калега робіць выгляд, што не заўважыў, як закранулі гонар яго мундзіра. Увогуле, такая пазіцыя досыць выгадная.

— Ды тутэйшыя яны, жывуць... два дамы далей... Мужыкі як мужыкі, але як насмокчуцца гары, што шалёныя робяцца! Пасадзілі іх.

— То мо адбылі ўжо тэрмін?

— Сядзяць. Іх надоўга запраторылі.

— Каб не гэтыя адзінаццаць рублёў.— Следчы запытальна глядзіць на мяне. Здаецца, ён закончыў сваю пісаніну.

— Дзівішся, чаму грошы не ўзялі... Ды гэта на той выпадак, калі забойца свядома ідзе на забойства, зараней узброіўшыся хоць бы нажом. Гэты з'явіўся па спіртное, а як Эма адмовіла, не паверыў, што ў яе няма. Са злосці схапіў тое, што трапіла пад руку, а трапілі ножанкі, і ўсадзіў ёй у горла. Потым сам перапужаўся і ўцёк...

— Табе трэба высветліць асобы тых, каму Эма прадавала гарэлку... Я не веру, каб адзінаццаць рублёў у алкаголіка не выклікалі цікавасці.

— Вядома, ён бы іх абавязкова прыхапіў, каб кашалёк ляжаў побач з ножанкамі, але ён быў у тумбачцы. Дый заўважыць ён мог толькі бутэльку.

— Тады трэба высветліць асобу...

— Да вечара я табе гэтую асобу знайду. Думаю, мне ўдасца. У горшым выпадку — заўтра. Звычайная гісторыя... Сустрэнуся з участковым інспектарам: быць не можа, каб ён не ведаў адрасы, дзе ў гэтым раёне можна купіць гарэлку ці самагонку. Упэўнены, што Эма Кірко — не першы чалавек, у якога злачынец пабываў, шукаючы спіртное, тым больш не адзіная. Ён абышоў месцаў дзесяць, стараўся і просьбамі, і грозьбамі дабіцца свайго. З інспектарам мы пойдзем па адрасах, дзе жывуць гандляры спіртным, пагутарым з імі. У іншым выпадку яны напэўна ж адмаўляліся б, але абставіны гэтага забойства прымусяць іх паводзіць сябе інакш.

На вуліцы май. Крыху пахаладала, а ўвесь мінулы месяц сонца смаліла,як у Сахары. Зямля высахла, што порах. Усе, не толькі гароднікі, што пасеялі ўжо радыску, чакаюць не дачакаюцца дажджу. Хто калі чуў такое — у Латвіі ды няма дажджу! А пайшоў ён якраз своечасова — у момант, калі пераадзетыя і непераадзетыя мілітарысты спрабавалі штурмам заняць будынак Вярхоўнага Савета. Цікава, з чаго яны пачалі б, каб удалося ўварвацца ў будынак? Аб'явілі б сябе ўрадам?.. Аднак вынік быў такі: у некалькіх чалавек пераломы рэбраў, сардэчныя прыступы, сінякі. Віншуем генералаў Чырвонасцяжнай Балтыйскай ваеннай акругі з бліскучаю, хоць і не атрыманаю, перамогаю. Такая дастойна вялікага ордэна або шырокіх штаноў з чырвонага саціну, якімі ўзнагароджвалі адважных герояў Будзённага ў час яго маладосці.

У нашай канторы таксама неспакойна. Незадаволены ў асноўным прыезджыя і непрафесіяналы, якіх вылучылі на высокія пасады. Прынцып новага ўрада — хто не працуе, той не есць — пужае многіх. А злачыннасць працягвае расці, колькасць забойстваў за тры гады павялічылася ў чатыры разы. І дзевяноста дзевяць забойстваў з ста — такія, як гэта — з-за гарэлкі ды па п'янцы. Прычым, п'юць усё, што пад руку трапіць — абы абалдзець! Задумка была добрая, але сілаю навязаны сухі закон спарадзіў легіён агрэсіўных дэбілаў...

Стаю на вузкай Вазнясенскай вуліцы. Праз штыкетнік, які сям-там паломаны, відаць магілы Пакроўскіх могілак, помнікі і крыжы. Добра было б прайсціся па гэтых ціхіх мясцінах і падумаць пра тое, што і як спытаць у раённага інспектара. Але вуліцу ніяк не перайсці — міма пралятаюць легкавыя машыны, за імі, нібы лінейныя караблі, праплываюць чатыры двухпавярховыя аўтобусы — вязуць замежных турыстаў у Межапарк і на Брацкія могілкі. У вокнах мільгаюць твары равесніц Эмы Кірко — сівыя, з шустрымі вочкамі, з падмалёванымі дарагою памадаю губамі... Жыццё Эмы Кірко і іх жыццё — як два берагі глыбокай цясніны... Гэтае параўнанне быццам напамінае, што мне яшчэ не даводзілася расследаваць забойствы, якія зробленыя, каб завалодаць спадчынаю. Якую спадчыну магла пакінуць пасля сябе Эма Кірко? Якую ўвогуле спадчыну можа пакінуць наш пенсіянер, калі толькі ён не быў персанальным? Хіба што слёзы і горыч.

Усведамляю, што наша версія забойства традыцыйная, руцінная. Але мяне гэта мала турбуе. Гульня, як кажуць, ідзе па правілах: пабачуся з участковым інспектарам, а той у сваю чаргу ўжо сёння расшукае забойцу. Але мне ўсё-такі здаецца, што не ўлічана нейкае звяно. У кватэры маё вока штосьці інтуітыўна заўважыла, аднак я яшчэ кепска цямлю, што іменна.

Дык што ж?

На могілках прысаджваюся на мармуровую лаўку. Магілка асела, але помнік з гербам узвышаецца велічна, нягледзячы на тое, што па гербу прайшлася аўтаматная чарга. Ведаю, што ні пры вызваленні Рыгі, ні пасля вайны ў гэтым раёне баёў не было. Стралка, мабыць, раззлаваў родавы герб — сведчанне таго, што нябожчык кімсьці быў, меў нейкую ўласнасць. Эма Кірко была нікім, уласнасці не мела. Адзіная рэч у яе кватэры, якую не трэба было паліць, тэлефонны апарат. Ён таксама стары, дапатопны, хоць яшчэ працуе. Быў у бабулі як забаўка. Бо і праўда, заплаці два пяцьдзесят у месяц і звані колькі душа пажадае. «Злучыце мяне з генеральным дырэктарам!», «Запішыце мяне на прыём да міністра!» Далей сакратарак, праўда, ёй, напэўна ж, не ўдавалася прабіцца: сакратаркі — надзейны і выпрабаваны бар'ер... Магла яна пераазвоньвацца і з нейкаю старадаўняю сяброўкаю, але хіба нармальны чалавек мог цікавіцца ёю? Раптам мне стукнула ў галаву: дык вунь што замінае мне замкнуць лагічнае кола дэталяў і падзей!

Ускокваю і спяшаюся назад у брудны бабулін закапурак. Я павінен паспець да таго, як следчы апламбіруе дзверы. Ён зробіць гэта, як толькі павязуць труп.

Зноў іншаземцы перагароджваюць мне шлях. Дзе толькі людзі бяруць грошы на падарожжы?

Следчы ўсё піша. Панятыя зусім скіслі.

— Дзе яе паперы?

— На,— следчы пасоўвае мне замусолены стусік, а я заўважаю ў яго здзіўленне. Пашпарт, працоўная кніжка, мятыя бланкі рэцэптаў, нейкія квітанцыі і тыя самыя фотаздымкі. Старыя, якасць кепская. На першай — кампанія, якая ўтульна размясцілася сярод дзюнаў. На пяску — разасланы абрус. Мяркуючы па дамскіх купальніках (трусы-панталоны на гумках), гэтае «снеданне на траве» адбылося даўно, а калі меркаваць па разнастайнасці закусак і бутэлек — яшчэ раней, у тыя часы, калі сацыялізм хоць і перамог на адной шостай частцы зямнога шара, але не паспеў яшчэ ператварыць яе ў галодны стэп. Другі фотаздымак — пачатак пяцідзесятых гадоў: дамы з высокімі прычоскамі і ў сукенках з вуглаватымі, падбітымі плечыкамі, а мужчыны ў гарнітурах з тканіны «соль з перцам» — усяго за трыццаць восем рублёў. Такія гарнітуры насілі людзі сярэдняга дастатку. Кампанія зноў на выездзе — размясцілася за столікам з розным едзівам, які стаяў на верандзе рэстарана. Побач стаяць незанятыя крэслы. Відаць, сябры зайшлі мімаходзь і не збіраюцца сядзець цэлы вечар. У Юрмале? У Сігулдзе? На абодвух здымках Эма ў аднолькавай позе — з паднятаю рукою, у якой чарка. Выглядае гадоў на дваццаць. Не, сэксбомбаю яе не назавеш — звычайная дзеўчанёха, у якое і недахопы, і празмернасці.

— Інспектара знайшлі?

— Я яшчэ думаю.

— Чаго тут думаць?

— Вось і я хацеў бы ведаць.

На адваротным баку здымкаў па адным імі — «Роберт» і «Віктар». Надпісы зроблены шарыкаваю ручкаю, значыць, яны з'явіліся пазней за здымкі. Хоць і гэта было ўжо досыць даўно.

Пытаюся:

— Гэта ўсё, што знайшлі ў тумбачцы?

— Ну вядома! — Следчы не прыхоўвае здзіўлення.

Эміны паперы раскладваю на незанятай частцы стала як пас'янс, але сярод іх няма ніводнага абрыўка, у якім бы маглі захоўвацца здымкі. Канверта таксама няма. Ну хіба што трымала іх у працоўнай кніжцы. Фармат дазваляе. А мо і не.

— З нябожчыцаю вы часта сустракаліся? — распытваю ў панятых. Яны запытальна глядзяць адно на аднаго, не ведаючы, што адказаць.

— Калі яны была маладая, тут быў сапраўдны бардак...— пачынае жанчына.— Ну, не такі, каб за грошы, але мужчыны хадзілі сюды пастаянна... Былі і злодзеі сярод іх... Прыедзе міліцыя, забярэ адну кампанію, павязе, глядзіш — праз месяц ужо другая прысебрылася... Калі Эма пастарэла, да яе цягаліся навакольныя п'янчужкі — паўспамінаць мінулае... У смеццевых баках на двары заўсёды было многа бутэлечак з-пад трайнога адэкалона і бярозавай вады.

— І лесвіцу так паабсцыкаюць — смурод, не прайсці,— устаўляе праўдалюбец муж.

— Пасля таго, як яе збілі і яна пластом ляжала, я заходзіла, пыталася, мо што трэба прынесці з магазіна ці з аптэкі... чалавек усё-такі...

— Вам яна ніколі не паказвала свае фотаздымкі? Мо што расказвала пра іх?

— Не, не паказвала.

І ўсё-такі ў мяне нейкая ўпэўненасць, што гэтыя фатаграфіі — не адзіныя. Яны маглі захоўвацца не ў альбоме, а проста ў канверце ці загорнутымі ў паперу. Бо інакш яны даўно ператварыліся б у ашмоцце.

Ці быў у Эмы тэлефонны даведнік? Калі ў чалавека ёсць тэлефон, то ў яго звычайна ёсць і даведнік ці ў крайнім выпадку нейкая запісная кніжка. Хоць просты лапічак паперкі з якім-небудзь нумарам — напрыклад, рэгістратуры ў паліклініцы. Не ўсё ж можна ўтрымаць у галаве.

— У цябе няма ліхтарыка?— пытаю ў следчага.

Не адрываючыся ад сваіх папер, ён ківае, моўчкі дастае з «дыпламата» ліхтарык з галагеннай лямпай і працягвае мне.

Яркі прамень, як святло аўтамабільнай фары ў цемры, пранізвае прыцемак у памяшканні.

— Пад ложкам нічога няма, я глядзеў.

— Ды не, я — другое.

Пляма святла марудна сунецца па сцяне, якая сто гадоў не бачыла рамонту. Я вывучаю яе нібы з лупою. Тынкоўка шэрая, шурпатая. Калі ў чалавека пад рукою няма і кавалачка паперы, каб запісаць патрэбны яму нумар тэлефона, то ён можа зрабіць гэта і на сцяне. Старэйшыя запісы напэўна будуць з пяці лічбаў — яны мяне не цікавяць... Госпадухна, пра што я толькі думаю!.. У тыя гады тэлефона тут не магло быць... Хіба што... Гэтае памяшканне для жытла падыходзіць мала, да вайны тут магла быць якая майстэрня, а тэлефон у ёй быў звычайнаю справаю.

Запісы я знайшоў у галавах ложка. Чатыры нумары. «Сіндзія», рысачка і нумар. «Аляксандра Янаўна», рысачка і нумар. «Доктар Калнынsocone», рысачка і нумар. «Дзегузе», рысачка і нумар.

— У цябе выдатны ліхтарык,— кажу я, вяртаючы яго следчаму.

— Я і сам нішто. Скажы, у якой гадзіне ты мне прадставіш забойцу?

— Не здзекуйся.

*(Працяг будзе).*

Для дзяцей і дарослых

# РУКАЎ І РУКАВІЦА

Жылі-былі Рукаў ды Рукавіца. Прыходзіліся яны адно аднаму раднёй, ды і жылі па суседству. Аднойчы сустрэў Рукаў Рукавіцу і гаворыць ёй:

— Слухай, кума. Ніяк я не ўкемлю: чаму гэта цябе Людзі Рукавіцай завуць?

— Завуць — значыць, трэба, — адказвае Рукавіца. — Значыць, так належыць.

— Можа, яно і належыць, — не сунімаецца Рукаў,— але што ж гэта выходзіць: я на руцэ сяджу — дык я Рукаў. Я ўсю руку грэю. А ты?

— І я — руку, — адказвае Рукавіца.

Прызадумаўся Рукаў.

— Сапраўды так. Але ж згадзіся, што твая рука і што мая? Розніца!

— Так, розніца ёсць, — адказвае Рукавіца, — але рука ўсё роўна адна. І тое рука, і тое рука.

— Несправядліва неяк, нядобра, незразумела, — прамовіў Рукаў.

— Што ж тут незразумелага, — засмяялася Рукавіца. — А калі табе што і незразумела, дык ты ў Чалавека спытай. Чалавек жа, нябось, ведае.

«Можа і сапраўды ў Чалавека спытацца?» — падумаў Рукаў.

— Гэй, Чалавек! Тут мы з Рукавіцай паспрачаліся... Апранаем мы рознае, а завуць нас, калі разабрацца, дык аднолькава, толькі што яна жанчына, а я мужчына. Вось мне і незразумела, а нават і крыўдна трошкі.

— А ты не крыўдуй, — гаворыць Чалавек. — Я і сам гэта разумею, ды з Мовай сваёй нічога зрабіць не магу.

— Як гэта? — дзівіцца Рукаў.

— Ды ў тым уся справа, што не я сваёй Мовай, а яна мной кіруе.

— Ды не верыцца мне неяк...

— Ну вось паслухай. Гаворыць пра мяне Мова: «Чалавек змарыўся». Альбо: «Чалавек пасівеў». Альбо: «Чалавек плача». Ты і сам, напэўна, разумееш, як гэта недакладна гучыць. Змарыліся мае ногі, пасівелі мае валасы, плачуць мае вочы. Навошта ж гэтыя абагульнені, гэта вечнае «Чалавек», «Чалавек», «Чалавек»?..

— Згаджаюся з табой, — адказвае Рукаў. — Але як жа быць?

— А ніяк! Нідзе нам ад улады Мовы схованкі не знайсці... Але ведаеш, я часам думаю, што і самой Мове нялёгка, і сама яна паднявольная. Уяві сабе, што ты, Рукаў, будзеш звацца адным словам, а Рукавіца, кума твая, другім. Добра будзе? Няхай добра. А хто ж тады даведаецца, што вы — радня?

Прызадумаўся Рукаў.

— Альбо ўяві, — працягваў Чалавек, — што Мова будзе гаварыць замест «Чалавек змарыўся» — «Ногі змарыліся», замест «Чалавек пасівеў» — «Валасы пасівелі», замест «Чалавек плача» — «Вочы плачуць». Ці не здаецца табе, што слова Чалавек тады ўвогуле акажацца лішнім, бо яно нічога не будзе значыць? І ўжо ні Рукаў, ні Рукавіца такому Чалавеку непатрэбны.

— Гэта было б дрэнна, — згадзіўся Рукаў.

— Вось бачыш, браток. Так што дарэмна ты пакрыўдзіў Рукавіцу.

— Так, дарэмна. Трэба было б папрасіць у яе прабачэння.

— Я б на тваім месцы зрабіў тое самае, — сказаў Чалавек.

*А. КІКЛЕВІЧ*

# НАРОДНАЯ ЛЯКАРНЯ

БРАТКІ, НАЧНАЯ ФІЯЛКА. У народнай медыцыне маюць шырокае і даволі разнастайнае прымяненне. Часцей за ўсё ўжываюць напар: водная настойка 20 г на 1 шклянку кіпетню па паўшклянкі ці па 1 шклянцы тры разы на дзень. Злоўжыванне вялікімі дозамі выклікае раздражненне кішэчніка. Напар травы начной (трохколернай) фіялкі ўжываюць як кроваачышчальны сродак пры розных наскурных захворваннях (экзема, скулы, сып).

*Здароўя не купіш (Сержпутоўскі).*

Як сродак, які паляпшае дзейнасць нырак, мачагонны і часткова патагонны, а таксама кроваачышчальны, чай з травы трохколернай фіялкі п'юць пры раматусе, залатусе, рахіце, хваробах лёгкіх, пры падагры і артрыце, пры суставным раматусе. Акрамя таго, такі напар ужываюць у народзе пры прастудным кашлі і як адхарквальны сродак.

*Здароўе латва страціць, ды трудна набыць (Федароўскі).*

Малым дзецям нельга даваць на дзень болей за шклянку напару з 10—12 г. сухой расліны (за 3—4 разы). Такі чай ужываецца ў народзе вельмі часта і з вялікай эфектыўнасцю.

*Здароваму ўсё здорава (Федароўскі).*

Чай з травы трохколернай фіялкі лічыцца добрым кроваачышчальным сродкам пры венерычных хваробах.

Залатушны сып і струпы лечаць ваннамі. Ужываюць і мазь: у 100 г сланечнікавага алею (лепш міндальнага) вараць на працягу 5—10 мінут 10 г кветак фіялкі трохколернай, 5 г травы блюшчыку і 5 г сухой вербены. Працэджваюць і зліваюць у шкляначку. Такой маззю змазваюць месцы, дзе ёсць залатушныя пашкоджанні, або прыкладваюць да іх анучкі, намочаныя гэтай маззю. Пры гэтым на галаве папярэдне састрыгаюць валасы.

Трохколерная фіялка, якая культывуецца, як лекавы сродак у народзе не ўжываецца.

І смех і грэх

# Дыялогі на вясковай лаўцы



— Нешта ты, Пелагея, мала ў дачкі пагасцявала? Ці не месяц усяго? А збіралася ж усю зіму прабыць.

— Нагасцюешся ў майго зяцька, аж моташна стане: з іхім чалавекам і дзень пакажацца векам.

— І я больш не езджу: то не так ступіла, то не туды села, то не тое сказала. Датуль была міла, пакуль пялюшкі ўнукам мыла ды кумпякі вазіла.

* *
*

— Калі гэта забароняць алкагалічкам раджаць? Паўдуркаў напладзілі — паўсвету. Дальбог, народ звядуць! У адной толькі Веркі Жэньчынай ажно адзінаццаць. І ўсе ў спецшколе вучацца.

— А дзе ж ім яшчэ вучыцца, калі саабражэння не маюць. З дурнога куста і ягада пуста.

* *
*

— Гляньце-гляньце! Лёнікава Маруська ідзе! Вой, мусіць, новую андуляцыю зрабіла?.. Расфуфыраная ўся!

— О-о-о! У гэтай заўсёды на галаве строй, а ў хаце хоць з лапатай стой.

* *
*

— Твая Ванда за такога красівага замуж выйшла! Усіх яе кавалераў закасаваў.

— Кожны на вывеску глядзіць. А таго шчасця — з жабіны прыгаршчы.

* *
*

— Не адпірайся, Стэпка, нешта ты ведаеш. Гуркі во разам садзілі, дык ты кашалямі цягала, а я на зіму толькі пару баначак паставіла. Усе прапалі. І буракі, гляджу, у цябе, як галовы, параслі, і морквы не абабрацца. А ў мяне, каб хоць адно каліва добрае вырасла. Дальбог, нешта ты ведаеш!

— Адно я, Фрыдзечка, пэўна ведаю: у чужых кароў усягды вымя большае.

* *
*

— Сёння «на порчу» ў магазіне муку давалі. А людзі радыя-радыя! Мяшкамі цягалі.

— А порча хоць якая? Мо куры склююць?

— Што ты! Ні курам, ні сабаку, калі не хочаш патруціць, як прусакоў.

— Дзіва што няма дабра на свеце! Згнояць, а потым яшчэ з людзей здзекуюцца: на табе, нябожа, што і скаціне не гожа.

* *
*

— Учора на праўленні калхоза новага заўцэхніка здымалі з должнасці. Аніводненькі не ўступіўся! Усе прадсядацелю паддаквалі.

— А што я казала? Проці ветру не плюнеш. Згарэў хлопец за праўду!

— Ат, лепш бы ён не пачынаў яе шукаць. Такому цялят ці ваўка не спаймаці.

Учула
Любоў ЛАМЕКА.

# У аблічча птаха

Янусь МАЛЕЦ

*Калі Усявышні пакліча,*
*У незямной скрусе*
*Зменю я сваё аблічча —*
*У птаха ператваруся.*

Пятрусь МАКАЛЬ.

Настане час і я варонай,
А можа, буслам ці шпаком,
З'яўлюся з песняй над раёнам,
Дзе мой стаіць задумны дом.
Над ЖЭС знаёмай пакружуся,
Над нарсудом прыветна каркну,
Ля гастранома апушчуся
І па плячы Рыгорку шваркну.
— Здароў,— скажу,— суседпаэце!
Ты што мяне не пазнаеш?
А як я быў на гэтым свеце,
Дык ты не раз мой слухаў верш.
Ад страху сплюне Барадулін
І затрымціць, нібы вуаль:
— Варона гэта, ці зязюля,
Далдоніць нешта, як Макаль!..
— Так-так, Макаль! — скажу самотна.—
Мне цяжка зараз тут, з людзьмі,
Таму, суседзе, хоць турботна,
Гарэлкі пляшачку вазьмі!
Ты пасядзіш са мной за чаем,
Я ж дзюбу ў келіх памачу
І раскажу, як я лятаю
І як у пекла не хачу!

# Крыжаванка-пераклад



ПА ВЕРТЫКАЛІ: 1. Вкось. 2. Известняк. 3. Вранье. 5. Флаг. 6. Ангел. 9. Подряд. 10. Зачет. 12. Побережье. 14. Стон. 18. Вонь. 20. Каратель. 24. Раздолье. 25. Мошенник.

ПА ГАРЫЗАНТАЛІ: 2. Кругом. 4. Впускал. 7. Сток. 8. Йодный. 11. Кнут. 13. Растительное масло. 15. Спичка. 16. В сторону. 17. Глаз. 19. Ручательство. 21. Туча. 22. Косяк. 23. Обрывистый. 26. Крестик. 27. Устный. 28. Обман. 29. Жидкая. 30. Презрение.

Падрыхтавала
Людміла ШНІП.



Наш адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13.
Тэлефон рэдакцыі: 33-17-83.
Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара неабавязкова можа адпавядаць меркаванню рэдакцыі.
Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.
МВПА імя Якуба Коласа. Мінская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка».
Наклад 7113 паасобнікі. Зак. 2475. Індэкс 74975.